наша СВАБОДА

№30 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

9 ЧЭРВЕНЯ 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Владимир Ермошин: «Там тоже эти хохлы нас будут обдирать»

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

**9 июня в Одессе главы правительств Украины, Молдовы и Беларуси проведут рабочую встречу, на которой они намерены «сработать в интересах друг друга». Об этом сообщил председатель правительства Беларуси Владимир Ермошин во время своего посещения Гродненской области в минувшую пятницу. Одной из основных целей на этой встрече премьеров ставится достижение прозрачного коридора по перевозке молдавской сельхозпродукции в Беларусь и белорусской — в Молдову. Владимир Ермошин отметил, что по этой проблеме уже есть политическое решение. Задача же трех премьеров, еще недавно встречавшихся на белорусской земле, найти в Одессе его «формулу» выполнения. Объявлено, что встреча там продлится несколько часов. Видимо, в неформальной обстановке. Говорят, что и без галстуков...**

Однако, рассуждая о перспективах трехстороннего сотрудничества по перевозке сельхозпродукции, премьер-министр Беларуси допустил высказывания, которые могут вызвать негативный и скандальный резонанс. Дабы не допустить обвинений в предвзятости, вырванности фраз из контекста выступления, стоит привести цитату сделанного заявления Владимира Ермошина полностью: « Но предупреждаю. Даже если мы все там и подпишем, еще надо будет брать боксерские перчатки и сначала прорываться в Молдавию и оттуда. Потому что, к сожалению, побирают на Брузгах, да и в Чернигове. Там тоже эти хохлы нас будут обдирать. Будем прорываться». Оказалось, премьер Ермошин владеет всей бытовой нафталинной классификацией в отношении, видимо, всех соседей Беларуси и партнеров по СНГ. И кто «побирает в Брузгах» тоже понятно. После таких высказываний про «хохлов», к чему можно «прорваться», представить нетрудно. Как и непросто такую базарную терминологию из уст главы правительства увязать с широкоизвестной толерантностью белорусов. Впрочем, как сказал по поводу этого высказывания один чиновник, не «бульбашу»-премьеру высказывать такие оскорбительные эпитеты в адрес братьев-украинцев. ▶

*Окончание на стр.3*


Фота REX/ProMedia

# Усебеларускі з'езд: не дапусціць дыскрэдытацыі!

**Аляксей СТАЎСКІ**

Мала часу засталося да прызначанага дня правядзення Усебеларускага з'езда. Спачатку ягоныя арганізатары прызначылі дату правядзення на 17-18 чэрвеня 2000 года, пазней загаварылі аб магчымым правядзенні ў ліпені. Трэба сказаць, нейкія дзіўныя рэчы і інтрыгі акальцавалі апошнім часам усё, што з гэтым з'ездам звязанае. Усім зразумела, што з'езд павінен стаць сапраўдны падзеяй у жыцці беларускага грамадства. І ў гэтым кантэксце абсалютна незразумела, навошта арганізатары так спяшаюцца з падрыхтоўчымі мерапрыемствамі па правядзенні з'езда і, як падаецца, наўмысна перакрыжоўваць час правядзення мерапрыемства з часам правядзення Кангрэса дэмакратычных сілаў. Ды і проста не можа падрыхтоўка да такога важнага мерапрыемства прайсці ў такія сціслыя тэрміны!

НАША СВАБОДА папрасіла падзяліцца думкамі аб падзеях, злучаных з падрыхтоўкай з'езда, старшыню БНФ Вінцука Вячорку, які ў час паездкі ў ЗША сустракаўся з беларускай дыяспарай, якая таксама неадназначна ставіцца да маючага быць з'езда.

***— Спадар Вінцук, што вы скажаце аб супадзенні па часе двух такіх буйных мерапрыемстваў — Усебеларускага з'езда і Кангрэса дэмакратычных сілаў?***

— Адразу скажу, што гэта абсалютна рознафарматныя і рознафункцыянальныя справы. КДС – гэта празрыстыя мэты. КДС – гэта калі буйнейшыя партыі, рухі і прафсаюзы вылучаюць сваіх прадстаўнікоў і вырашаюць нейкія канкрэтныя справы. Сёлета на Кангрэсе нам трэба вызначыць агульную пазіцыю, агульнае стаўленне да восеньскіх выбараў. Адно-адзінае пытанне парадку дня. Стаўленне беларускай дыяспары да гэтага спакойнае. Ну, функцыянальнае мерапрыемства, значыць трэба гэта рабіць.

Усебеларускі з'езд – справа, вядома, іншая, значна больш важкая, глабальная. На першым Усебеларускім з'ездзе было 1.800 дэлегатаў, якія рэальна прадстаўлялі тэрыторыі, самакіраванні. Яны былі рэальным прадстаўніцтвам беларускага народа. І ў гэтым сэнсе на ўсіх, хто бярэцца за ладжанне Усебеларускага з'езда, ляжыць вельмі вялікая адказнасць, каб з'езд быў максімальна прадстаўнічым. Калі мы, не дай Бог, дэвальвуем само паняцце Усебеларускага з'езда, хто ведае, як распарадзіцца намі гісторыя, і ці не спатрэбіцца нам праз два гады склікаць у цяжэйшых варунках нешта падобнае. Тым больш ёсць яскравы досвед дыскрэдытацыі некаторых масавых кампаніяў, што ў нас апошнім часам у Беларусі ладзіліся.

Вось чаму БНФ, ды, здаецца, і іншыя дэмакратычныя партыі Беларусі, абсалютна падтрымаўшы ініцыятыву журналістаў і іншай творчай інтэлігенцыі аб правядзенні Усебеларускага з'езда і ў той жа час маючы вялізны досвед у арганізацыі розных агульнанацыянальных кампаніяў, зыходзяць з наступнага. Патрэбна рэальнае прадстаўніцтва тэрыторыяў. Для таго, каб яно было рэальным, трэба данесці літаральна да кожнага чалавека інфармацыю пра з'езд. Вельмі добра, што ўжо створаны праект Акта незалежнасці. Гэта выдатны дакумент, але яго трэба данесці літаральна ў кожную хату, каб людзі ведалі, куды і навошта яны вылучаюць прадстаўнікоў. Патрэбна распаўсюдзіць мільёны улётак, выехаць ва ўсе раёны. Трэба правесці максімальна паўнавартасныя сходы ці мітынгі. Гэта ўжо залежыць ад мясцовых умоваў. Усё вышэйпералічанае адбірае шмат людскіх, часавых, тэхнічных і іншых рэсурсаў.

Акрамя таго, вельмі каштоўна было б, каб у нас быў інструмент адказу на магчымы выбарчы фарс уладаў. То, відаць, атрымалася б найбольш дзейсна, каб Усебеларускі з'езд быў прымеркаваны на восень, якраз на той час, калі Лукашэнка і тыя, хто стаіць за ім у Маскве, паспрабуюць рэалізоўваць свае сцэнары легітымізацыі хаця б якога-небудзь органа тут, у Беларусі, каб ад ягонага імя штампаваць пасля інтэграцыйныя ідэі. Вось тут і спатрэбіцца Усебеларускі з'езд.

Я вельмі спадзяюся, што тая дыскусія, якая разгарнулася зараз вакол Усебеларускага з'езда, вакол даты ягонага правядзення, нейкая дэструктыўная. Я веру, што тут усё здаровы сэнс пераможа і будзе дасягнутая згода, будзе вызначаны тэрмін, які дазволіць не адкладаць гэтую ініцыятыву бясконца, але і неператворыць яе ў шараговы сход інтэлектуалаў. Што ж датычыцца амбіцыяў, то беларускае палітычнае поле не такое занятае, каб нечыя амбіцыі засталіся нерэалізаванымі. Месца тут павінна хапіць усім, хто мае нейкія арганізатарскія здольнасці, падмацаваныя публіцыстычным талентам і палітычнай хваткай. ■



## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Камітэт па міжнародных справах Сената ЗША 7 чэрвеня аднагалосна рэкамендаваў Сенату прыняць рэзалюцыю па Беларусі №304.** Гэта знакамітая рэзалюцыя ўжо не раз узгадвалася беларускімі СМІ і была прынятая Палатай прадстаўнікоў Кангрэса ЗША. У ёй асуджаецца грубае парушэнне правоў чалавека ў Беларусі, даецца жорсткая характарыстыка рэжыму, прапануюцца меры для вяртання краіны на шлях дэмакратыі. Такая ж прыкладна рэзалюцыя прапанаваная да прыняцця і па Расіі. У пастанове камітэта, прынятай аднагалосна, рэкамендавана, каб гэтыя два дакументы былі зацверджаныя Сенатам у поўным аб'ёме. Чакаецца, што рэзалюцыі будуць прынятыя на наступным тыдні.

■ **Выступая в Атланте, штат Джорджия, Генеральный секретарь ООН сказал, что миротворческие силы ООН обязаны иметь достаточное количество военнослужащих для выполнения своего мандата.** «Тяжелое вооружение необходимо для показа боевой мощи, чтобы противники мирного процесса даже не думали о противостоянии».

■ **Прэзідэнт Біл Клінтан паведаміў кіраўніцтву абодвух палатаў Кангрэса ЗША і дзяржсакратару Злучаных Штатаў аб сваім рашэнні працягнуць у адносінах да Беларусі дзеянне рэжыму нармальных гандлёвых адносінаў (РНГА) з ЗША яшчэ на адзін год.** Працяг РНГА ў адносінах да Беларусі азначае, што яшчэ на працягу аднаго года на Беларусь не будуць распаўсюджвацца абмежаванні, прадугледжаныя папраўкай Джэксана-Веніка ў закон аб гандлі 1974 года.

■ **Дарагое імпартовае праслухоўваючае прыстасаванне было падключанае да тэлефоннага кабеля кватэры старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі.** Прыстасаванне знаходзілася паміж трэцім і другім паверхамі, яго выпадкова знайшоў тэлефонны майстар, які рамантаваў на гэтай лесвічнай пляцоўцы камунікацыйную сетку. Сп. Лябедзька не вельмі здзівіўся знаходцы, назваўшы яе яшчэ адным доказам існавання дыктатуры на Беларусі. У бліжэйшы час ён плануе звярнуцца ў пракуратуру горада з запытам, ці давала яна санкцыю на праслухоўванне, і калі не, дык запатрабаваць узбуджэння па гэтым факце крымінальнай справы.

## НАДВОР'Е




Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 975

# Владимир Ермошин: «Там тоже эти хохлы нас будут обдирать»

*Окончание. Начало на стр.1*

Не прошло незамеченным высказывание В. Ермошина среди тех, кого власти называют национал-радикальной оппозицией. Один из членов БНФ отметил, что, выступая против некоторых назначений на руководящие государственные посты приехавших из России русских, белорусские националисты никогда публично не допускали в их адрес прозвищ типа кацапы. А некоторые наблюдатели при этом напомнили о предвзятости властей в отношении оппозиционных СМИ, порою обвиняя последних в разжигании межнациональной розни. Да и после истории с одним известным изданием «Православной инициативы» в Беларуси, по их мнению, высказывание В. Ермошина воспринимается как мрачная закономерность.

Что касается официальной реакции, то посол Украины г-н Анатолий Дронь отказался говорить на эту тему. Узнав, что к нему обращается корреспондент НАШАЙ СВАБОДЫ, он решил дипломатично сослаться на свою занятость. А пресс-атташе посольства г-н Василий Ткаченко сказал, что он этого, по сути скандального, сюжета по первому национальному телеканалу не видел. И поэтому комментировать его не может. Тем не менее, по неофициальной информации, посол А.Дронь был проинформирован о случившемся, и дабы не портить атмосферу встречи в Одессе, обе стороны порешили считать высказывания В. Ермошина досадным недоразумением. Очевидно, понимая всю пикантность ситуации, в которую попал шеф, пресс-секретарь премьера Иван Знаткевич, в отличие от других чиновников, мужественно признал, что была допущена «досадная оговорка». Надо полагать, случившееся послужит уроком для недавно назначенного премьера.

Однако, все же остается один вопрос, на который пока ответа нет. Скандальное высказывание премьера почему-то 2 июня показывали неоднократно в телевизионных выпусках новостей с завидным упорством. Будто кто-то очень желал, чтобы заметили премьера со всем его красноречием. Не скрывала странной радости на телеэкране по этому поводу и известная дикторша. Известно, какой жесткий контроль за эфиром осуществляется на белорусском телевидении. А одной из причин, по которой оппозицию не пускают в прямой эфир, нередко называется боязнь власть имущих, что представители оппозиции способны своими речами разжигать межнациональную рознь. Поэтому более чем странным выглядит тот факт, что остающиеся пока анонимными цензоры допустили неоднократный показ по ТВ «досадной оговорки» премьер-министра Беларуси. ■

# Куды Новікаў збіраецца несці Лукашэнку?

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Цікавыя рэчы можна было пабачыць у мінулую суботу ў «Панараме-аналітычнай», якую вёў выхаванец «зімоўскай» школы тэлежурналістыкі Юрый Казіятка. Ён надта крыўдаваў, што апазіцыянеры не згаджаюцца чамусьці (цікава, чаму?) прыходзіць да яго на праграму. А калі прыходзяць у прамы эфір, дык вядуць сябе там неадпаведна свайму статусу: шчыра выказваюць сваю думку на ўсю краіну, і нічым іх не спыніш, акрамя як выключэннем мікрафона. Каб не было такіх неспадзяванак, як атрымалася з С.Шушкевічам, на перадачу быў запрошаны «надзейны таварыш» — былы старшыня «Беларускай Лігі правоў чалавека», зняты з сваёй пасады рашэннем Рады, Яўген Новікаў. Ад удзячнасці за магчымасць не менш за чвэртку гадзіны быць на ўсіх тэлеэкранах рэспублікі Новікаў нагэтулькі запаліўся, што вінаваціў усіх, каго здолеў узгадаць: Шушкевіча, дэпутатаў, якія галадалі ў Вярхоўным Савеце ў 1995 годзе, апазіцыю, Захад, NATO. Але ад «знакамітага праваабаронцы», відаць, чакалі не толькі крытыкі. Быў патрэбны, як той казаў, «пазітыў». Ён і выдаў добрую порцыю. Аказваецца, калі б ён быў рабочым «Гарызонта», дык насіў бы Лукашэнку на працу ад пад'езда да рэзідэнцыі на руках (за тое, што А.Лукашэнка наладзіў на «Гарызонце» выпуск тэлевізараў). Аднак, што перашкаджае Новікаву ўладкавацца на радыёзавод і кожны дзень здзяйсняць сваю мару. Наўрад ці Лукашэнка адмовіцца, каб яго насіў на руках праваабаронца, хай і былы.

Апошні пасаж прамовы сп. Новікава быў проста прасякнуты злобным цынізмам. Ён заклікаў да адказу «всех этих шушкевичей и карпенок! Пускай придут сюда и за всё ответят». Генадзь Дзмітрыевіч Карпенка памёр больш за год таму. Пра нябожчыкаў ці не гавораць нічога, ці толькі добрае. У нашым народзе адваротнае лічыцца непрыстойным, а ўжо здзек з чалавека, якога на гэтым свеце няма, – відочнае хамства. Дзіўна, што Казіятка, які выключыў мікрафон Шушкевічу, не адключыў мікрафона Новікаву, калі той ганьбаваў сябе, тэлеперадачу і БТ, заклікаючы прыйсці адчытацца перад ім чалавека, якога сярод жывых няма. Як і пра што з людзьмі, якія не разумеюць, што такое маральнасць, можа гаварыць апазіцыя? ■

# ЧАЭС нарэшце зачыняецца

**Кірэй МАНУЙЛАЎ**

**Апошні, трэці энергаблок Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі будзе зачынены 15 снежня гэтага года. Пра гэта падчас візіту ў Кіеў прэзідэнта ЗША Біла Клінтана афіцыйна паведаміў украінскі прэзідэнт Леанід Кучма. Ён заявіў, што гэтая падзея стане не менш важнай, чымсьці адмова Украіны ад ядзернай зброі, і што наогул ядзернай небяспекі ў свеце такім чынам паменее.**

Украінцы выконваюць падпісаны разам з дзяржавамі «вялікай сямёркі» ў 1995 годзе Атаўскі мемарандум, згодна з якім бралі на сябе абавязальніцтвы вывесці ЧАЭС з эксплуатацыі да канца 2000 года. Рэфармаванне энергетычнай сістэмы – адна з умоваў уваходжання Украіны ў еўрапейскую супольнасць. Але, як і ў выпадку з адмовай ад ядзернай зброі, «атамку» зачыняюць не задарма. Клінтан, напрыклад, паабяцаў, што адныя толькі ЗША выдаткуюць 78 млн. долараў на будаўніцтва новага радыяцыйнага саркафага над разбураным чацвёртым энергаблокам і 2 млн. долараў на ўдасканаленне бяспекі іншых украінскіх атамных станцыяў, а таксама паспрыяюць перамоўнаму працэсу паміж Украінай і МВФ.

Нягледзячы на абвешчаную дату закрыцця ЧАЭС, праблемаў вакол яе тым не менш дастаткова. Краіны «вялікай сямёркі» не зусім задаволеныя сумай (2 млрд. долараў), якую ўкраінскі бок вымагае на завяршэнне праекта «Укрыццё» па ўласна прыпыненні функцыянавання ЧАЭС і на кампенсацыю наступстваў страты гэтай крыніцы энергіі. На «Укрыццё» трэба 360 млн. долараў, але вось ці дадуць краіны-донары такія грошы, будзе вырашацца на Берлінскай канферэнцыі «сямёркі» ў ліпені.

Разам з тым на стварэнне альтэрнатыўных энергакрыніцаў ЕС дасць 1,5 млрд. долараў грантаў і крэдытаў: 800 мільёнаў прадаставіць Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця, астатняе – нацыянальныя ўрады ЕС. Але тут праблема ў іншым. Украінцы настойваюць на поўным выкананні Атаўскага мемарандума, паводле якога замест ЧАЭС ва Украіне прадугледжвалася ўзвядзенне двух мадэрнізаваных рэактараў у Роўна і Хмяльніцкім. У адказ ім прапануецца, у прыватнасці, Нямеччынай (пад ціскам «зялёных»), будаўніцтва цеплястанцыяў на ветры, вуглі і газе. Але ўкраінскі бок даводзіць, што яны не змогуць замяніць традыцыйныя АЭС у плане энергааб'ёмаў, а да таго адна кілават-гадзіна на такіх станцыях будзе абыходзіцца спажыўцам у 10 разоў даражэй у адрозненне ад атамных.



Фота IREX/ProMedia

Для Беларусі закрыццё ЧАЭС — таксама значная падзея. Прынамсі, адтуль радыяцыйнага дажджу на нашую тэрыторыю больш не нанясе. Але наогул поўнай палёгкі і гарантыяў непаўтарэння бяды, падобнай да наступстваў чарнобыльскай аварыі, няма. Пад самым бокам дзейнічаюць гэткія ж небяспечныя, як калісьці ЧАЭС, Ігналінская і Смаленская атамныя станцыі. ■

# Піянерлагер у бальніцы?

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

У Гродне начальнік абласнога ўпраўлення па аздараўленні насельніцтва Іван Парасочка выступіў перад мясцовымі журналістамі. Былі названыя аптымістычныя лічбы і факты паляпшэння становішча ў санаторна-курортнай галіне. Напрыклад, улады, нарэшце, пачалі дбаць пра дзяцей-інвалідаў, якія раней, па словах дакладчыка, былі «бесхознымі». На іх цяпер таксама выдзяляюцца пуцёўкі.

Кіраўнік аздараўленчага ўпраўлення паскардзіўся, што няма «пасля развалу Саюза» пуцёвак на Каўказ. На поўдзень таксама мала – з прычыны цяжкасцяў з канвертацыяй беларускага рубля. Затое ў Трускавец – калі ласка, прычым яны каштуюць менш за 100 тысяч рублёў. Тым жа часам на Нарач – 150–170 тысяч, а ў Радон Дзятлаўскага раёна — 119–157 тысяч.

На жаль, на прадпрыемствах часам няма сацыяльнай справядлівасці, і па бясплатных пуцёўках ездзіць начальства. А трэба каб ездзілі прыбіральшчыцы, машыністкі, шафёры, сказаў сп.Парасочка. Дарэчы, звяртаючыся да журналістаў, ён праз кожныя некалькі словаў ужываў зварот «таварышы».

У піянерскіх лагерах дзеці звычайна жывуць па 15–20 чалавек у пакоі. Пакой на 3–4 чалавекі лічыцца ледзьве не люксам. У вобласці 37 такіх лагераў, няма аніводнага толькі ў Свіслацкім раёне. Нямала школьнікаў адпачне таксама ў дзённых лагерах пры школах. Там іх добра кормяць, паколькі сёння шмат якія дзеці жывуць «впроголодь», зазначыў І.Парасочка. Для летняга аздараўлення школьнікаў будуць выкарыстаныя нават чатыры ўчастковыя бальніцы на вёсцы. ■

# Расія ў ролі крэдытора

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

**Па звестках асобных расійскіх СМІ, Масква паабяцала Мінску яшчэ ўлетку бягучага года выдаць крэдыт у памеры 150-200 млн. долараў ЗША для стабілізацыі беларускіх грошай. Быццам бы адпаведная дамоўленасць дасягнутая паміж Нацыянальным банкам Беларусі і Расійскім цэнтральным банкам.**

У сувязі з гэтым узнікаюць пытанні аб мэтах такога мерапрыемства, умовах і тэрмінах выдзялення крэдытаў. Мэты, трэба сказаць, дастаткова відавочныя. Гэта робіцца дзеля таго, каб прадэманстраваць іншым краінам СНД, што за саюзніцкія паслугі, за той імпэт, з якім Беларусь змагаецца за стратэгічныя інтарэсы Расіі, можа быць заплачана. З другога боку, для Расіі, якая мае 150 мільярдаў знешняй запазычанасці, гэта не такія ўжо і вялікія грошы. Як кажуць, мільён туды, мільён сюды, кропля ў моры. Да таго ж валютныя рэсурсы Цэнтрабанка таксама дазваляюць гэта зрабіць без якіх-небудзь дрэнных наступстваў для ўласнай грашовай сістэмы.

Відавочна, што першая частка стабілізацыйнага крэдыту можа быць прадастаўленая ўжо летам, таму што паміж саюзнікамі існуе дамоўленасць пра тое, што да 1 верасня Беларусь павінна выйсці на адзіны валютны курс, чаго без валютнага запасу не зробіш. Але грошы ёсць грошы, яны любяць лік, і таму крэдыты даюцца пад гарантыі. Па той методыцы, што ўжываецца Міжнародным валютным фондам, такой гарантыяй з'яўляецца комплекс рынкавых рэформаў, ажыццяўленне якога дазваляе краіне набыць валютны запас для пагашэння крэдыту. Такім чынам здаецца, што рэальна першыя траншы крэдыту будуць прадастаўляцца тады, калі беларускі бок узгодніць з расійскім праграму рынкавага рэфармавання, а наступныя – па меры яе ажыццяўлення. Гэта тым больш верагодна з улікам таго, што Расіі патрэбныя пастаянныя намаганні па рэструктурызацыі ўласнай знешняй запазычанасці. У гэтай сітуацыі, як лічаць эксперты, фінансаванне фактычна нелегітымнага, з пункту гледжання Захаду, беларускага рэжыму можа быць апраўдана менавіта таму, што крэдыт прадастаўляецца на тых жа ўмовах, што і міжнароднымі фінансавымі інстытутамі. Таму можна будзе сказаць, што Расія пераследуе тую ж мэту, што і МВФ, але мае значна большы ўплыў на беларускія ўлады і можа надаць рынкаваму сацыялізму чалавечы твар. І калі б рэфармаванне нарэшце пайшло, у Беларусі з'явілася б магчымасць атрымаць крэдыт ад МВФ і разлічыцца з Расіяй.

Такая схема, аднак, мае значныя хібы з палітычнага боку. Бо рэальнае рэфармаванне, па-першае, патрабуе змены ўсяго эканамічнага курсу апошніх шасці гадоў. Калі яго ажыццявіць, то ўзнікне пытанне: чым жа ўвесь час займаўся Лукашэнка і навошта ён зараз патрэбен. Па-другое, рэальнае рэфармаванне на першым яго этапе прывядзе да сацыяльнай дэстабілізацыі. Таму ў рэфарматараў вельмі кароткі палітычны век, і калі Лукашэнка поідзе на гэты крок, то ад яго палітычнай бессмяротнасці не застанецца і следу. А ўвогуле, усё можа быць значна прасцей. Бо чыноўнікі, якім таксама надакучылі гульні ў інтэграцыю, мяркуюць, што калі аб'яднанне з Расіяй, у якой велізарная знешняя запазычанасць, адбудзецца, то і Беларусі прыйдзецца плаціць па яе даўгах. Таму хай дае нам жывыя грошы цяпер, а будучыня пакажа, аддадзім мы іх ці не. ■

СУСЕДЗІ

# Во Львове бьют москалей

Во Львове продолжаются силовые акции против русских под лозунгами «Бей москалей», «Смерть за смерть» и «Не будем слушать русскую музыку». МИД России направил ноту в посольство Украины, в которой выразил тревогу по поводу антироссийских настроений на Украине. По данным дипломатов, антироссийские выходки на Украине не только не прекращаются, но и усиливаются. Праворадикальные силы Украины громят киоски с русскоязычными изданиями, а львовские национал-радикалы проводят митинги под лозунгами «Смерть за смерть» и «Бей москалей».

Подобная ситуация вызвана гибелью народного артиста Украины Игоря Билозира. Вечером 9 мая в кафе он сделал замечание двум русским парням, которые слушали «русский шансон». В ответ любители блатных мотивов забили актера железными прутьями, через 20 дней он умер в больнице. Украинские милиционеры по факту смерти актера возбудили уголовное дело. Однако одному из подозреваемых в убийстве удалось скрыться. Задержанный же оказался сыном одного из чиновников львовского УВД.

Эта криминальная история вызвала во Львове широкий общественный резонанс и послужила поводом для выражения антироссийских настроений. Первый секретарь департамента информации и печати МИД России Александр Бикантов рассказал «Газете.Ru» о том, что «случай, конечно, деликатный, однако чисто уголовные моменты нужно отделять от националистических».

Чтобы выяснить обстановку во Львове, «Газета.Ru» связалась с Львовским горсоветом. Там все без исключения говорили с «Газетой.Ru» только по-украински. Украинская девушка, пресс-секретарь местного горсовета (она отказалась представиться), сказала, что во Львове беспорядков нет: «Просто все слушают только украинскую музыку, хотя распоряжения об этом сверху не было. И это хорошо».

Пресс-секретарь посольства Украины в России Валерий Козловский рассказал «Газете.Ru», что пока о ноте МИД России ничего не знает. А в МИД России пояснили, что у украинцев есть на ответ «то ли десять дней, то ли месяц. Нужно посмотреть в дипломатическом протоколе». ■

**Газета.RU**

